Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

# ГАНДЛЁВЫ БЮЛЕТЭНЬ

## НАРКАМУНУТГАНДЛЯ БССР

РЭДАКЦЫЯ І КАНТОРА
г. Менск,
Дом Урада,
левае крыло, 4 паверх,
комн. № 415.
Тэл. № 22-540.

№ 4 (40) | Год выдання 2-гі | 24 лютага 1936 г. | № 4(40)

## Рэарганізацыя апарата Наркамунутгандля БССР

*(З загада па Наркамунутгандлю БССР № 65 ад 8-га лютага 1936 г.).*

У адпаведнасці з пастановай ЦВК і СНК СССР ад 5-га студзеня 1936 г. „Аб рэарганізацыі Наркамунутгандля СССР, Наркамунутгандляў Саюзных Рэспублік і іх мясцовых органаў“—**загадваю:**

**Арганізаваць** на базе аддзела арганізацыі гандлёвай сеці і рэгулявання цэн—**аддзел арганізацыі гандлёвай сеці.**

Зацвердзіць начальнікам аддзела арганізацыі гандлёвай сеці **т. Камянецкага.**

На базе аддзелаў: продтаварнага, промтаварнага і хлеба-фуражнага—**арганізаваць аддзел прадуктовага і промтаварнага гандля.**

Перадаць у аддзел промтаварнага і продтаварнага гандля групу цэн з ліквідуемага аддзела арганізацыі гандлёвай сеці і рэгулявання цэн.

Зацвердзіць начальнікам аддзела продтаварнага і промтаварнага гандля—намесніка Наркома т. **Верба.**

На базе планава-эканамічнага аддзела і аддзела кіраўніцтва прадпрыемствамі — **арганізаваць планава-фінансавы аддзел.**

Ускласці часова абавязкі начальніка планава-фінансавага аддзела на майго намесніка **т. Верба.**

На базе групы ўчота і кан'юнктуры—**арганізаваць самастойны ўчотна-статыстычны аддзел.**

Зацвердзіць начальнікам учотна-статыстычнага аддзела т. **Адлерштэйна.**

**Рэарганізаваць групу** падрыхтоўкі кадраў **у аддзел падрыхтоўкі кадраў.**

Начальнікам аддзела падрыхтоўкі кадраў зацвердзіць т. **Кругліка.**

**Пры Наркоме ўстанавіць:**

а) ст. кансультанта па падбору і размеркаванню кадраў;

б) інспектарска-рэвізійную групу. Зацвердзіць начальнікам інспектарска-рэвізійнай групы т. **Нісенбаума.**

## У НАРКАМУНУТГАНДЛІ БССР

◆ У адпаведнасці з рашэннем ЦВК і СНК СССР аб вытворчай камерцыйнай дзейнасці і латарэйнай работы добраахвотных таварыстваў, Наркамунутгандаль БССР прапанаваў беларускаму таварыству „Прэч непісьменнасць“ на працягу 5 дзён ліквідаваць свой магазін канцпрыладаў у Менску.

Памяшканне магазіна перадаецца ў распараджэнне беларускага аддзялення Саюзкультгандля.

◆ Наркамунутгандаль БССР дазволіў гандлюючым арганізацыям паўсямесны продаж фінскага вагавага хлеба. Адзіная рознічная цана на гэты хлеб устаноўлена ў размеры 2 р. 50 к. за кгр.

Скідка ў карысць гандлюючых арганізацый пры продажу фінскага хлеба ўстаноўлена ў 12 к. з кгр.

◆ Адпускная цана на выпрацоўваемыя Аршанскім хлебакамбінатам пранікі-коўрыгі ўстаноўлена ў размеры 4 р. за кгр.

◆ Аптовая адпускная цана на штучны мёд выпрацоўкі Менскай і Бабруйскай арцеляў інвалідаў устаноўлена ў размеры 2 р. 25 к. за кгр. фр.-арцель.

◆ Па скарзе пакупнікоў АРАНОВІЧА і МІШАЛАВА аб продажу ім магазінам Менпромгандля нядобраякасных мужчынскіх рубашак з шоўкавага трыкатажа і незвароце і грошай, Наркамунутгандаль БССР даў распараджэнне Менпромгандлю звярнуць пакупнікам заплочаныя імі грошы і прад'явіць адпаведны іск пашывачнай арцелі імя КРУПСКАЙ, якая выпусціла прадукцыю дрэннай якасці.

Справа аб вінаватых у выпуску нядобраякаснай прадукцыі з арцелі імя КРУПСКАЙ перадана пракурору.

◆ Рознічная продажная цана на сухую чарніку ўстаноўлена ў размеры 6 руб. за кгр.

◆ Загадам па Наркамунутгандлю БССР абвешчана вымова намесніку загадчыка Віцебскага Горунутгандля т. **Геншафту** за сістэматычны продаж у магазінах Віцебску чорствага хлеба.

Адказны за хлебны гандаль—работнік Віцебскага Горунутгандля **Бер** зняты з работы.

Наркамунутгандаль звярнуўся да ўпаўнаважанага Наркамхарчпрома з просьбай прыцягнуць да суровай адказнасці дырэктара Віцебскага хлебакамбіната т. **Шахавіцкага**—за водпуск магазінам чорствага хлеба.

Дырэкцыя Віцебскай канторы Харчгандля папярэджана, што яна будзе прыцягнута да суровай адказнасці, калі ў далейшым будуць заўважаны выпадкі атрымання з хлебазавода чорствага хлеба.

# АФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

## Тавары паўсядзённага попыту павінны заўсёды быць у магазіне

### ЗАГАД

**па Народнаму Камісарыяту Ўнутранага Гандля БССР**

31/I—36 г. **№ 59** г. Менск

Не гледзячы на неаднаразовыя папярэджанні з боку Наркамунутгандля БССР аб неабходнасці поўнага і своечасовага выканання загада Саюзнаркамунутгандля № 2091, улічваючы, што ад выканання гэтага загада залежыць поспех выканання плана таваразварота,—да сёнешняга дня ёсць факты яўнага ігнаравання гандлюючымі арганізацыямі гэтага загада, чым фактычна зрываецца выкананне плана таваразварота.

Да сёнешняга дня большасць арганізацый не давяла да магазінаў плана па 8-мі таварам паўсядзённага попыту; не ўведзены ў магазінах асартыментныя кнігі, ёсць шмат магазінаў, дзе адсутнічаюць тыя ці іншыя тавары і гандлюючыя арганізацыі не вядуць дастатковай барацьбы з усімі тымі недахопамі, якія ёсць у гандлёвай сеці.

Так, па сеці **Менхарчгандля** ў магазіне № 97 два разы праводзілася праверка і абодва разы адсутнічала ў продажы соль.

У магазінах 57, 25, 21, 50 адсутнічала ў продажы соль. У магазінах 45, 23, 22, 94 і 50 адсутнічалі цукеркі. Монпасье адсутнічала ў магазіне 22, туалетнае мыла—у магазіне 38.

**Па Барысаву:** пры праверцы сеці Белхарчгандля ўстаноўлена адсутнасць развеснай солі ў магазінах №№ 12, 52, 45, і 31. У магазінах №№ 18, і 50, зусім не было солі. У магазінах №№ 1, 3, і 54 запас солі быў усяго на 2—3 дні. У магазінах №№ 3, 13, 18, 52, 54 і 50—адсутнічала туалетнае мыла, у магазінах №№ 6, 9, 2, 7, 18, 24 і 4—монпасье, у магазінах №№ 18, 22 і 50—гаспадарчае мыла.

**Па Магілеву:** па Белхарчгандлю ў магазіне № 12 адсутнічае туалетнае мыла і монпасье, у магазіне № 14—монпасье. У магазіне № 40 адсутнічае монпасье і туалетнае мыла.

**Па Гомелю:** па Белхарчгандлю—у магазіне № 65 не было солі і сахарнага пяску. У магазіне № 36 адсутнічала монпасье, у магазіне № 52—монпасье і туалетнае мыла, у магазіне № 17—цукеркі—абсыпка і туалетнае мыла, у магазіне № 72—цукеркі—абсыпка. У магазіне № 35 не было падушак-абсыпка. У магазіне № 123 адсутнічала соль, туалетнае мыла і г. д.

**Па Віцебску:** у магазінах ГВК НКУС адсутнічаў у продажы цукар.

Па Белхарчгандлю—соль адсутнічала ў магазінах №№ 12 і 28, монпасье—у магазінах 22, 30, 35, 44, 47, 59, 70 і 73.

**Па Бабруйску:** у магазіне № 13 адсутнічала соль і туалетнае мыла. У магазінах №№ 46 і 39 адсутнічала махорка і туалетнае мыла.

Адсутнічанне гэтых тавараў у продажы пры наяўнасці іх на складах і базах сведчыць аб нежаданні кіраўнікоў асобных гандлюючых арганізацый змагацца за выкананне загада № 2091, што фактычна прыводзіць да зрыва выканання плана таваразварота.

**Загадваю:**

1. У апошні раз папярэдзіць кіраўнікоў усіх гандлюючых арганізацый аб тым, што ў далейшым я буду за ўсякія выпадкі парушэння загада № 2091, за наяўнасць фактаў адсутнічання асобных тавараў у магазінах, несвоечасовае давядзенне плана па 8-мі таварам паўсядзённага попыту—прымаць самыя рашучыя меры.

2. Абавязваю ўсіх Горрайунутгандляў устанавіць найстражайшы паўсядзённы кантроль за выкананнем усімі без выключэння гандлюючымі арганізацыямі загада № 2091, прымаючы на месцы ўсе неабходныя меры ў адносінах тых арганізацый і асоб, якія не выконваюць загада.

Нарком Унутранага Гандля БССР **Н. Гурэвіч.**

* * *

### ПАСТАНОВА

**Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР**

7-II—36 г. **№ 131** г. Менск

У лістападзе м-цы 1935 г. органамі Дзяржаўнай Гандлёвай Інспекцыі праводзілася праверка насычанасці сеці Жлобінскага Райсаюза дастатковымі таварамі і, у прыватнасці, соллю, і было ўстаноўлена адсутнасць раду тавараў паўсядзённага попыту. Не гледзячы на зробленыя тады папярэджанні, як Райсаюзу, так і Жлобінскаму Райунутгандлю—з іх боку гэтыя папярэджанні не былі ўлічаны і больш таго, Жлобінскі Райунутгандаль (тав. **Фарбераў**) —стаў на шлях очкаўцірацельства, паведаміўшы Наркамунутгандаль, што зараз такіх з'явішчаў у раёне няма.

Паўторная праверка, праведзеная ў студзені м-цы 1936 г. паказала, што загад № 2091 Саюзнаркамунутгандля аб гандлю таварамі паўсядзённага попыту па Жлобінскаму раёну не выконваецца, што Райсаюзам ігнаруецца асартыментны мінімум, устаноўлены Цэнтрасаюзам, не выконваецца пастанова ЦК КП(б)Б ад 23/IX—35 года аб гандлю соллю і інш. таварамі паўсядзённага попыту.

У магазіне № 3 Жлобінскага Гарпо ў час праверкі адсутнічалі монпасье, падушка-абсыпка і туалетнае мыла.

У магазінах №№ 1 і 4, акрамя вышэйпералічаных тавараў, адсутнічала соль.

У магазіне № 1 прыгараднага сельпо адсутнічалі такія-ж тавары.

У магазіне № 1 Пірэвіцкага сельпо адсутнічала ў продажы соль і гэта ў той час, калі на складах Райсаюза ёсць вялікая колькасць солі.

Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР пастанаўляе:

1. Жлобінскаму Райунутгандлю т. **Фарбераву** за нерэагаванне на факты невыканання загада Наркамунутгандля СССР № 2091 аб гандлю таварамі паўсядзённага попыту і очкаўціраацельства,—абвясціць вымову.

2. Перадаць пракурору для прыцягнення да крымінальнай адказнасці старшыню Жлобінскага Райсаюза т. **Гладкага** за сабатаж выканання загада Саюзнаркамунутгандля аб гандлю таварамі паўсядзённага попыту і адсутнасць у сеці асартыментнага мінімума, устаноўленага Цэнтрасаюзам.

3. Звярнуць увагу старшыні Белкаапсаюза т. **Баскіна** на невыкананне Жлобінскім Райсаюзам устаноўленага Цэнтрасаюзам асартыментнага мінімума і фактычны сабатаж гандля такімі таварамі, як соль, канд. вырабы і інш. і прасіць пры праверцы Райсаюзаў на бліжэйшы час звярнуць асаблівую ўвагу на пытанні гандлю таварамі паўсядзённага попыту і наяўнасці ў сеці ўстаноўленага асартыментнага мінімума.

4. Прапанаваць ст. раённаму інспектару ўнутранага гандля па Жлобінскаму раёну т. **Фарбераву**—арганізаваць сістэматычную праверку выканання ўсімі гандлюючымі арганізацыямі раёна загада Наркамунутгандля СССР № 2091 аб гандлю таварамі паўсядзённага попыту і выканання ўстаноўленага асартыментнага мінімума.

Нарком Унутранага Гандля БССР **Н. Гурэвіч.**

---

## Асартыментны мінімум для спецыялізаваных меблевых магазінаў

### ЗАГАД

### па Народнаму Камісарыяту Ўнутранага Гандля БССР

25/I—36 г. **№ 49** г. Менск

1. На падставе загада НКУГ СССР ад 4/I г/г. за № 20, зацвердзіць асартыментны мінімум па меблі для спецыялізаваных меблевых магазінаў Белгандля і ГУМ'а ў г. Менску (гл. дадатак).

2. Абавязаць кіраўнікоў Белгандля (тав. **Кантара**), Менгандля (т. **Бронштэйна**) і ГУМ'а (т. **Дуберштэйна**), дырэктароў (загадчыкаў) спецыялізаваных магазінаў і аддзяленняў ГУМ'а з 1 сакавіка 1936 г.—мець пастаянна асартымент меблі, паказаны ў асартыментным мінімуме.

3. Ускласці адказнасць на кіраўнікоў паказаных арганізацый (п. 2 гэтага загада) за штодзённую праверку асартымента тавараў магазіна—аддзялення і своечасовае забеспячэнне поўнай наяўнасці меблі па асартыментнаму мінімуму.

4. Абавязаць дырэктароў (загадчыкаў) магазінаў Белгандля і аддзяленняў ГУМ'а, вывесіць асартыментны мінімум на відным месцы ў магазінах і аддзяленнях—для азнаямлення пакупнікоў.

5. Абавязаць Дзяржгандальінспекцыю (т. **Левін**) і Менскі Горунутгандаль (т. Саф'ян)—устанавіць сістэматычны нагляд за наяўнасцю тавараў у паказаных магазінах, згодна ўстаноўленага гэтым загадам асартыментнага мінімума і аб усіх выпадках неўжывання або парушэння асартыментнага мінімума—паведамляць мне.

Нарком Унутранага Гандля БССР **Н. Гурэвіч.**

---

**Дадатак к загаду па НКУГ БССР № 49 ад 25/I—36 г.**

## Асартыментны мінімум спецыялізаванага меблевага магазіна

1. Шафы пружынныя славянскія
2. „ гардэробы
3. Буфеты
4. Шафы кніжныя
5. Сталы кухонныя
6. Камоды
7. Табурэткі
8. Сталы абедзеныя
9. „ „ раздвіжн.
10. Сталы пісьмов. аднатумбачн.
11. „ „ двухтумбачн.
12. „ „ грамадзянскія
13. Столікі шахматныя
14. „ самаварныя
15. Сталы тэлефонныя
16. Тумбы патэфонныя
17. „ прыложкавыя
18. „ пад кветкі і бюсты
19. Этажэркі з шафай
20. „ з паліцамі
21. Стулля сталовыя
22. „ венскія
23. Крэслы
24. Паліцы для кніжак
25. „ „ вісячыя
26. Вешалкі насценныя
27. „ стаячыя
28. Вешалкі для ручнікоў
29. Дываны турэцкія
30. „ сталовыя з высокай спінкай
31. Атаманкі
32. Канапы з адным валікам
33. „ з двума валікамі
34. Матрацы пружынныя палуторныя
35. Матрац. пруж. аднаспальн.
36. „ „ дзіцячыя
37. Ложкі металёвыя палуторныя
38. „ „ аднаспальныя
39. „ „ дзіцячыя
40. Сеткі
41. Ложкі паходна-дачныя
42. Качалкі
43. Шырмы
44. Дзіцячыя сталы
45. „ стулля
46. „ „ высокія
47. Судныя шкі
48. Карнізы ваконныя і дзверныя
49. Матрацы складныя
50. Пярынкі валасяныя і на марской траве.

# За абман спажыўца—да адказнасці!

## Пастанова Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР

2-II—36 г. **№ 112** г. Менск

Праверкай, праведзенай Дзяржаўнай Гандлёвай Інспекцыяй пры Наркамунутгандлі СССР па БССР разам з Плодагароднай Інспекцыяй пры Камітэце загатовак СНК СССР па БССР устаноўлена, што:

1. Дырэктар базы Менплодагародтрэста т. Топельсон не кантралюе, каб пры адпраўцы яблык у магазіны яны па гатунку адпавядалі паказанай у накладной гатунковасці. У выніку ў магазіны №№ 17 і 18 былі адпраўлены марожаныя яблыкі па цане 1 р. 40 к. кгр., у той час як на самой справе гэта была сумесь марожаных, гнілых і інш. яблык.

2. У ларку № 11 ТПУ НКУС (заг. Міндэль) прадаваліся нестандартныя яблыкі 2-га і 3-га гатункаў па цане 1 р. 80 к. і 2 р. 20 к. за кгр., замест устаноўленай цаны на нестандартныя яблыкі ў 1 р. за кгр.

3. У магазіне № 1 Менплодагароднінагандля (заг. Соскін) яблыкі антонаўка, на палову гнілыя прадаваліся як 2-гі і 3-ці гатункі па 1 р. 80 к. і 2 р. 20 к. за кгр., без уцэнкі, што з'яўляецца яўным абманам спажыўца.

4. Па лініі Менплодагародтрэста (дырэктар Гелін) у магазіне № 15 (заг. Васковіч), № 14 (заг. Гоберман) яблыкі нестандартныя прадаваліся як 3-ці гатунак па цане 1 р. 80 к., замест 1 р., у магазіне № 9 (заг. Каган) за 3-ці гатунак прадаваліся яблыкі на 20% падгніўшыя, у ларку № 6 (заг. Беленькая) за 3-ці гатунак прадаваліся яблыкі, падгніўшыя на 30%, без уцэнкі.

Дырэктар розніцы т. Розман незаконна павысіў цану па магазіну № 14 на яблыкі 3-га гатунка да 2 р. 20 к., замест 1 р. 80 к.

Дырэктар Менплодатрэста Гелін самавольна ўстанавіў цану на марожаныя яблыкі ў 1 р. 40 к. (цана на марожаныя яблыкі нікім не ўстаноўлена).

Пастанаўляю:

1. За водпуск тавараў з базы без папярэдняй сартыроўкі і ўказання гатунка ў накладной, абвяшчаю вымову дырэктару базы т. Топельсону.

Абавязваю яго пры кожным водпуску яблык з базы ўказваць у накладной гатунак і цану, загадзя рассартыраваўшы фрукты ў адпаведнасці з стандартам.

2. Заг. ларка № 11 ТПУ НКУС Міндэлю, заг. магазіна № 1 Менплодагародгандля Соскіну, заг. магазіна № 16 Васковічу, № 14 Гоберману, № 9 Кагану і заг. ларка № 6 Беленькай—стаўлю на від.

3. Дырэктару розніцы Менплодагародтрэста т. Розману за незаконнае павышэнне цэн на яблыкі абвяшчаю вымову.

4. Указаць дырэктару Менплодагародтрэста Геліну на недапушчальнасць самавольнага ўстанаўлення цэн на яблыкі, абавязаўшы яго прадставіць Наркамунутгандлю на разгляд і зацверджанне цэны на тыя гатункі яблык, па якім цэны яшчэ не ўстаноўлены.

Нарком Унутранага Гандля БССР **Н. Гурэвіч.**

# ІНСТРУКЦЫЯ

## аб парадку кляймення мяса па ўпітанасці

*(Зацверджана начальнікам Галоўмяса 11|XII—35 г.).*

Стандартамі ОСТ № 8539 на мяса бараніну, ОСТ № 8540 на мяса гавядзіну, якія зацверджаны 3/XII—35 г. і павінны быць уведзены ў дзеянне з 15|XII—35 г. прадугледжваецца абавязковае накладанне, акрамя ветэрынарнага кляйма, спецыяльных клеймаў, якія сведчаць аднясенне кожнай тушы або яе часткі (паловы, чацвярціны), выпускаемай з мясакамбінатаў і ўбойных пунктаў, да той ці іншай катэгорыі ўпітанасці.

Парадак маркіроўкі мяса па ўпітанасці ўстанаўляецца наступны:

а) Пасля туалета і ветэрынарнага агляда мяса і накладання ветэрынарнага кляйма, мяса агледжваецца бракерам-мясаведам, які апрача праверкі якасці раздзелкі, разрубкі і туалета туш, вызначае яе катэгорыю ўпітанасці, згодна стандарта і накладвае на тушу адпаведны штэмпель з абазначэннем лічбай катэгорыі ўпітанасці, горада і мясакамбіната.

б) Гавяжыя тушы падзяляюцца на мяса дарослай буйнай рагатай жывёлы і мяса маладняка буйнай рагатай жывёлы, прычым на гавяжыя тушы дарослай жывёлы накладваецца штэмпель з абазначэннем літары „В", а на тушы маладняка—штэмпель з абазначэннем літары „М".

в) **Гавяжыя тушы дарослай жывёлы** па ўпітанасці маркіруюцца:

1) Жырнай упітанасці—лічбай „1".
2) Вышэй сярэдняй упітанасці—лічбай „2".
3) Сярэдняй упітанасці—лічбай „3".
4) Ніжэй сярэдняй упітанасці—лічбай „4".
5) Нестандартныя тушы—лічбай „5".

г) **Гавяжыя тушы маладняка** па ўпітанасці маркіруюцца:

1) Сярэдняй упітанасці—лічбай „3".
2) Ніжэй сярэдняй упітанасці—лічбай „4".
3) Нестандартныя тушы—лічбай „5".

Увага. У выпадках, калі туша маладняка па ўпітанасці задавальняе патрабаванням стандарта, прад'яўляемым да мяса вышэй сярэдняй упітанасці дарослай буйнай жывёлы, такія тушы маладняка маркіруюцца лічбай „2" і штэмпелем літарай „М".

д) **Баранныя тушы** па ўпітанасці маркіруюцца:

1) Жырнай і вышэй сярэдняй упітанасці—лічбай „1".
2) Сярэдняй упітанасці—лічбай „2".
3) Ніжэй сярэдняй упітанасці—лічбай „3".
4) Нестандартныя тушы—лічбай „4".

е) Штэмпелі з абазначэннем літараў і лічбаў павінны быць круглай формы (з абадком вакол лічбы ці літары) дыяметрам $2^1/_2$ см. Тэкст штампа павінен быць наступны: у цэнтры круга штэмпеля павінна стаяць лічба ўпітанасці, а вакол гэтай лічбы па краях абадка ставіцца назва горада і слова „Мясакамбінат".

Маркіроўка праводзіцца той-жа фарбай, якая дапушчана да ўжывання для ветэрынарных клеймаў.

ж) Паколькі новы ОСТ на мяса—свініну знаходзіцца яшчэ ў стадыі зацверджання, у адносінах дзялення свініны па ўпітанасці належыць да атрымання новага стандарта кіравацца дзейнічаючымі стандартамі ОСТ 2993 і маркіраваць свініну наступным чынам:

1. Свініна сальнага тыпа лічбай „1".
2. Свініна поўсальнага тыпа лічбай „2".
3. Свініна мясаразрубачная лічбай „3".
4. Свініна—нестандартныя тушы лічбай „5".

Увага. Свініна, якая прадназначана для выпрацоўкі бекона не маркіруецца, а маркіроўка бекона праводзіцца па існуючай на гэта інструкцыі і ОСТ-у 1650.

з) Маркіроўка мяса літарамі і лічбамі праводзіцца шляхам накладання штэмпеля з знадворнага боку тушы:

1. Па гавядзіне: на сярэдзіне бедранай часткі і на лапатцы ўверхняй яе частцы, адступаючы на 3 см. ад верхняга (шырокага) краю лапатачнай касці.

Накладанне гэтых клеймаў праводзіцца ў паказаных мясцох на абодвух задніх і абодвух пярэдніх чэцвярцінках.

Побач са штэмпелем упітанасці на кожнай чацвярцінцы ставіцца штэмпель аднясення мяса да дарослай жывёлы або маладняка, гэта значыць з абазначэннем „В" ці „М".

2. Па бараніне і свініне штэмпель ставіцца на тых-жа частках тушы, што і па гавяжаму мясу; узростнае кляймо на бараніне і свініне не ставіцца.

3. Згодна паказаных стандартаў на гавядзіну і бараніну часткі тушы з удаленымі пабітасцямі, правышаючымі па гавядзіне звыш 20% і па бараніне 10% паверхні, лічацца нестандартнымі і ў рознічны продаж не паступаюць.

4. Па сканчэнні бракеража і кляймення мяса па кандыцыях праводзіцца ўзвешванне мяса для вызначэння парнай вагі.

Вынікі ўзважвання заносяцца ў вагавую ведамасць з падраздзяленнем гавядзіны па ўзросту і ўпітанасці, бараніны і свініны з падраздзяленнем па ўпітанасці.

Вагавая ведамасць падпісваецца вагаўшчыком і бракерам і служыць кантрольным дакументам пры праверцы работы бракера.

5. На мясакамбінатах, дзе ёсць інспектары дзяржаўнай мясной інспекцыі (ГМІ), пры выпуску мяса з камбіната для рэалізацыі на месцы, або пры адгрузцы дзяржінспектарам праводзіцца праверка правільнасці вызначэння кандыцыі.

У выпадку выяўлення няправільнай маркіроўкі мяса, кляймо, накладзенае бракерам камбіната, зразаецца, замест яго накладваецца кляймо дзяржаўнай мясной інспекцыі з абазначэннем сапраўднай кандыцыі.

Кляймо дзяржаўнай мясной інспекцыі ўстанаўліваецца такога-ж узору, як і кляймо камбіната, але слова „мясакамбінат" замяняецца словам „ГМІ" з захаваннем назвы горада.

6. Усё мяса, атрымліваемае ад пераапрацоўкі давальчаскай жывёлы, незалежна ад таго, што яно належыць тым ці іншым уласнікам, таксама належыць абавязковаму кляйменню па кандыцыях.

7. Усё мяса, якое паступае ад „Заготжывёлы", „Скотоимпорта", „Закупжывёлы" у парадку абменных аперацый абавязкова таксама падвяргаецца кляйменню па кандыцыях пры прыёмцы яго мясакамбінатам.

Галоўмяса—**МІРКІН.**

Дзяржаўная мясная інспекцыя—**ЭПШТЭЙН.**

# ЦЭНЫ

## Адпускныя цэны на вырабы промкааперацыі і кааперацыі інвалідаў

**(Пастановы Канвенцыйнага Бюро Наркамунутгандля БССР ад 2 і 5 лютага 1936 года)**

Устанавіць адпускныя цэны франка-вытворчасць на наступныя вырабы (з няпланавай сыравіны) выпрацоўкі арцеляў **Белкалеспромсаюза:**

Ложак дзіцячы лазовы, ажур., плецен., даўж. 106 см., Рагачоўскай арцелі імя XVII МЮД'а—10 р. 60 к.; таксама даўж. 90 см.—9 р. 15 к.

Крэсла дзіцячае, высок., ажур., плецен., лазов., вышыня 80 см., даўж. сядз. 62 см., выпрацоўкі той-жа арцелі—8 р. 55 к.

Канапа дзіцячая лазовая двухмесная, поўкруглая, даўж. сядз. 90 см., глыб. 38 см., выпрац. арц. „Окцябр", Бабруйскага Лесдрэўхімсаюза—13 р. 15 к.

Карзіна багажная лазовая, разм. 100 см., Полацкай арц. „Чырвоны гантоўшчык"—30 руб.

Крэсла дзіцячае лазовае, выш. у падлокатніку 46 см., спінка 56 см., ажур., плецен., Рагачоўскай арц. імя XVII МЮД'а—5 р. 15 к.

Карзіна для дзіцяч. каляскі, даўж. па днішчу 74 см., шыр. 40 см., глыб. 38 см., ажур., плец., той-жа арцелі—10 руб.

Карзіна лазовая плецен., для дзіцяч. санак, Бабруйскай арц. „Окцябр"—9 р. 10 к.

Поўкветачнік аднамесны, выш. 90 см., верх—34 см., ажур., плец., Рагачоўскай арц. імя XVII МЮД'а—3 р. 55 к.

Тумбачка лазовая выш. 80 см., Бабруйскай арц. „Окцябр"—3 р. 25 к.

Бумажніца лазовая ажур., плец., выш. 50 см., Рагачоўскай арц. імя XVII МЮД'а—2 руб.

Карзіна багажная разм. 90 см., Бабруйскай арц. „Окцябр"—23 р. 50 к., таксама разм. 80 см.—20 р. 75 к., 70 см.—17 р., 63 см.—14 р. 60 к., 54 см.—12 р. 60 к., 45 см.—10 р. 15 к.

Выбівалка плацяная лазовая, даўж. 70 см., галоўка з 8 пруццяў, разм. 25×23 см., Рагачоўскай арц. імя XVII МЮД'а—1 р. 25 к.

Лапата асінавая, выпрац. Мазырскага Лесдрэўхімсаюза—1 р. 50 к.

Хакейная клюшка цвёрдай пароды (ясень, дуб), загібная частка абмотана гумавай лентай, ручка—баваўнянай лентай,—Менскай арц. Метпромінструмент—7 р.

Кровельная драніна таўшч. 5 мм., даўж. 1,5 мт., шыр. 8 см., арц. „Чырвоны Окцябр" за 1000 шт. 57 р. 50 к.

Штукатурная дрань—даўж. 1,5 мт., таўшч. 3 мм., шыр. 2,5 мм.,—арц. „Чырвоны Окцябр" за 1000 шт. 18 руб.

Дыван пружыны, даўж. 1,9 мт., шыр. 0,7 мт., выш. 0,5 мт., верх крэтонавы, дрэва альховае, фанера клееная, Барысаўскай арц. „1-е Мая"—165 руб.

Канапа на 30 пружынах, даўж. 1,9 мт., шыр. 0,7 мт., выш. 0,5 мт., верх крэтонавы, дрэва альховае, са спінкаю—90 руб.

Стол абедзены сасновы, афарбован пад дуб са шпаклеўкай, разм. 110×80×80, Бабруйскай арц. „Чырвоны мебельшчык"—30 руб.

Стол абедзены сасновы рассоўны, на точаных ножках, з 2-ма запаснымі дошкамі, паліраваны, апрацован пад чырвоны колер, разм. 110×80×80 см., арц. Гомельскага Лесдрэўхімсаюза—55 руб.

Стол пісьмовы дубовы з 5-ю скрынямі, на точаных ножках, пакрыты царатай, апрацован спіртовым лакам пад колер дуба, выш. 82 см., даўж. 120 см. і шыр. 70 см., Гомельскага Лесдрэўхімсаюза—130 руб.

* * *

Зняць з вытворчасці сталы пісьмовыя дубовыя з прычыны высокіх цэн (280 руб. і 245 руб.).

Прапанаваць Белкалеспромсаюзу даць указанні сваім Лесдрэўхімсаюзам аб выпрацоўцы замест пісьмовых сталоў кватэрных—кухонных і канцылярскіх сталоў, якія карыстаюцца вялікім попытам.

* * *

Устанавіць адпускныя цэны фр.-вытворчасць на наступныя вырабы (з няпланавай сыравіны) арц. **Белкаапромсовета:**

### Менская арцель імя Крупскай:

Шапачка фанговая баваўняная, вага 0,05 кгр.—2 р. 70 к.

Блузка фангов. п/шоўк., вага 0,35 кгр.—22 р., таксама баваўняная 0,36 кгр.—9 р. 75 к., таксама п/шоўк. плацір., 0,25 кгр.—14 р. 45 к. Выпускаць з гальштукам і палепшанай афарбоўкі.

Блузка шоўк. палатн. Віцебск, арт. 645, вага 0,18 кгр.,—18 р. 35 к., таксама баваўняная—вага 0,2 кгр.—5 р. 30 к. Адначасова прапанаваць выпуск райтуз з гэтай-жа сыравіны.

Плацце дзіцячае ўцільнае, 0,2 кгр.—3 р. Звярнуць увагу на неабходнасць палепшыць апрацоўку.

Райтузы папяровай пражы, цёплыя, № 2, вага 0,18 кгр.—4 р. 30 к., таксама № 3, вага 0,2 кгр.—4 р. 65 к. Абавязаць выпускаць райтузы № 4 і 5 у большай колькасці, з прычыны вялікага попыту.

Рубашкі мужч. п/дробн. плацір., № 1, агва 0,26 кгр.—17 р. 75 к., таксама № 2, вага 0,28 кгр.—19 р., № 3, вага 0,3 кгр.—20 руб.

Рубашкі шоўк. палатн. Віцебск, арт. 645, № 3, вага 0,3 кгр.—29 р., таксама № 4, вага 0,32 кгр.—30 руб., № 5, вага 0,37 кгр.—34 р., таксама арт. 200/150, № 4, вага 0,32 кгр.—38 руб.

Блузка жаноч. шоўк. палатн. Віцебск, арт. 200/150, вага 0,18 кгр.—22 р. 70 к.

Панчохі жаноч., Віцебскай ф-кі, баваўняная пража, арт. № 9, за дзесятак—21 р., таксама арт. 13, за дзесятак—36 р. 65 к.

Шкарпэткі мужч. Віцебскай ф-кі, арт. 69, за дзесятак—21 р.

Панчохі дзіцяч. Віцебскай ф-кі, арт. 103/5, за дзесятак—13 р. 60 к.

Панчохі жаноч., п/шоўк, арт.23, за дзесятак—35 р.
Жакет жаночы, п/шоўк, тонкі, вага 250 гр.—28 р.
Джэмпер жаноч., п/шоўк, тонкі, вага 210 гр.—23 р.

### Бабруйская арцель імя Крупскай:

Занавескі цюлев., разм. 100/65—4 р.

Сеткі мужч., № 4, даўж. 70 см., з загібам планка даўж. 18 см., з 2-ма гузікамі—2 р. 90 к.

Дарожка шыр. у 50 см., афарбав. з каймой—4 р. 50 к.

Плацце шоўк. мадэльн. „Фантазія", клёшнае, даўж. 128 см.—148 р. 30 к.

* * *

Прапанаваць арцелі спыніць выпуск шоўкавага плацця „Фантазія", з прычыны высокай адпускной цаны і пераключыцца на выпрацоўку блузак з гэтай-жа сыравіны.

Зняць з вытворчасці Бешанковіцкай арц. „Чырвоная Ваціна" дарожкі шпагатнай з турбаадыходаў з прычыны высокай цаны (9 р. 83 к.).

### Віцебская арцель „Адраджэнне":

Хамут гарадскі, выязны, легкавы № 1—48 р. 11 к.
Прапанаваць арцелі выпускаць хамуты № 1—25%, № 2—40% і № 3—35%.

### Гомельскі швейпромсаюз:

Сарочка мужч. ніжн. „Гейма"—сыравіна (1 р. 55 к.)—7 р. 95 к., кальсоны з манжэтамі—6 р. 10 к., сарочка жаноч. на брэдэлях—5 р., касаваротка мальч.—6 р., сарочка ніжн. мальч.—5 р. 60 к., целагрэйка ватняя, верх баваўняны—18 р. 77 к., брукі ватнія—15 р. 20 к.

### Віцебскі скурпромсаюз:

Партфель школьны граліксавы, каляр., размер 33×23 см.—14 р. 06 к.

Сумка (радзікуль) жаноч. з гралікса, каляр., разм. 24×12 см.—17 р. 64 к., таксама разм. 27×12—19 р. 85 к.

Чувякі жаноч. клеен. (гарачая вулканізац.) на гумавай падашве і набойках, разм. 35—36—11 р. 50 к., таксама хром. на скуран. падашве. Прапанаваць выпускаць гэтыя чувякі на гум. падаш. па цане 11 р. 50 к., а падашву скураную і хром выкарыстаць для выпуска балетак.

**Менскі скурпромсаюз:**

Папругі выязныя з цясьмы, даўж. 1,2 м.—2 р. 65 к.

Поўбацінкі недамеркі, № 31/34, бразент., шытыя на гум. падашве—8 р. 50 к., поўбацінкі мужч., бразентавыя, механ. прашыўк. на маналітн. падашве, № 40—42—16 р. 50 к.

**Менская арцель імя Крупскай:**

Джэмпер бавайняны, вага 0,235 кг.—7 р. 80 к., таксама п|шоўк. плацір., вага 0,175 кг. —13 р. 50 к.

Плацце п/шоўк., плацір., дзіцяч., з рукавамі, вага 0,120 кг.—7 р. 45 к., таксама баваўн. з рукавамі, дзіцяч., Віцебскае палатно, вага 0,160 кг.—5 р. 75 к., таксама без рукав., вага 0,100 кг.—4 р. 25 к., таксама вага 0,110 кг.—13 р. 75 к.

***

Устанавіць адпускныя цэны фр.-вытворчасць на наступныя вырабы з няпланавай сыравіны:

**Менская арцель „Вперед" Белкалеспромсаюза:**

Чарніла фіялет., 303 табл. на 100 бут. па 0,6 літр. Цану за 100 бут., ёмк. па 0,6 літр., устанавіць часова тэрмінам на 45 дзён уперад да ўдасканалення ў 72 руб. 25 к. Прапанаваць Белкалеспромсаюзу даць указанне арц. „Вперед" аб дакладным пераглядзе калькуляцыі цаны на чарніла. Звярнуць сур'ёзную ўвагу на размеры паасобных відаў налічэнняў на зарплату. Адначасова прапанаваць арцелі выпускаць чарніла больш разнастайнага асартыменту, палепшыць афармленне бутэлек і выпускаць чарніла ў больш дробнай расфасоўцы.

Хімічны дзёгаць па рэцэптуры: смалы 0,393 тон, масла саляравае 0,215 тон і масла машыннае 0,426 тон—485 р. тона.

Лак спіртовы па рэцэптуры: каніфолі 0,300 тон, рт ацэтонавы 0,100 тон, дэнатурата 0,650 тон— ( р. тона.

Лак каніфольны скіпідарны па рэцэптуры: каніфолі 0,369 тон, скіпідара белага 0,273 тон і уайтспірта—2240 р. тона.

Сікацыў па рэцэптуры: каніфолі 0,3 тон, уайтспірта 0,45 тон, скіпідара белага 0,3 тон—2075 руб. тона.

Аліфа штучная па рэцэптуры: каніфолі 0,25 тон, масла машыннага 0,15 тон і уайт-спірта 0,66 тон—1140 р. за тону.

**Менская арцель „Працлюстра" Белпромбытсаюза:**

Кошка з пап'е-машэ, розная афарбоўка маслянай фарбай—2 р. 30 к.

Конь № 1 з пап'е-машэ ўстаноўлены на пляцоўцы з калёсікамі, афарбаваны маслян. фарбай розн. колер.—1р. 45 к., таксама № 2 такой-жа апрацоўкі—3 р. 45 к., № 6—8 р. 50 к., № 7—25 р., зебра— р. 50 к.

Качка з пап'е-машэ пакрыта маслян. фарбай, розн. колер., устаноўлена на пляцоўцы з шарыкамі, па цане 4 р. 80 к., гусь такой-жа апрацоўкі—4 р. 90 к., тыгр з пап'е-машэ, пакрыт масл. фарбай розн. колераў — 4 р. 40 к., карова № 1 з пап'е-машэ, пакрыта маслян. фарбай розн. колераў, устаноўлены на пляцоўцы з калесікамі, рагі з дроту, пакрыт. пап'е-машэ—1 р. 45 к., карова № 2 такой-жа апрацоўкі—3 р. 45 к., шлем чырвонаармейскі з пап'е-машэ—1 р. 75 к., каска міліцэйская—1 р. 85 к.

**Гомельская арцель „Вперед" „Белпромбытсаюза:**

Балалайка і мандаліна дзіцяч.—устанавіць цану ў 9 р. часова, да вырашэння ў Наркамфіне пытання аб разм. падатку са зварота; дзіцяч. гармонь—24 р. 50 к.

**Віцебская арцель „Картонаж" Белпромбытсаюза:**

Конь цыркавы і кавалерыйскі, корпус з пап'е-машэ, ногі драўлян., пакрыты слоем пап'е-машэ. Конь устаноўлен на драўлян. пляцоўцы з качалкамі і калёсікамі, грыва і хвост з конскага воласу, сядло з пап'е-машэ, збруя з скураных рэмняў, пакрыт эмалевай і масл. фарбай розн. колераў—28 р. 40 к.; конь вялікі бегавы, такой-жа апрацоўкі—38 р. 20 к.

**Арцель „Чырвоны абутнік" Менскурпромсаюза:**

Балеткі жаноч. з уцілю, на тэкстыльнай падкладцы, гумав. падашве, механ. прашыўка—5 р. 10 к.

**Менская арцель „Пролетарый" Белшвейпромсаюза:**

Коўдра дзіцяч., летн. з уціля (шахмат.)—10 руб.

Бярэт жаночы з вельвета—3 р. 87 к., капялюш жаночы з фетравага ўціля з аддзелкай № 48—50—11 р. 45 к., капялюш дзіц. з фетравага ўціля—9 р. 60 к. Прапанаваць Меншвейпромсаюзу даць указанне арцелі аб выпуску жаночых капялюшоў вялікіх размераў, якія зусім адсутнічаюць у продажы і карыстаюцца попытам.

**Менская арцель „2-я пяцігодка" Белкаапінсаюза:**

Матрац абцягнуты цікам на 40 пружын, разм. 187×93 см., выш. 20 см., ніз перацягнут дротавай сеткай—76 р.

Поўдзіван абцягнуты рэпсам, фарніраваная каробка і спінка. Сядзенне на 28 пружын, абцягнутае рэпсам, спінка на 10 пружын, даўж. скрыні 173 см., шыр. 72 см, выш. 13 см., разам з сядзеннем—36 см., ножкі скрыні 6 см., даўж. спінкі 173 см., выш. 97 см., уся выш. поўдзівана 120 см.—152 руб.

Прапанаваць Белкаапінсаюзу забараніць арцелі „2-я пяцігодка" рабіць у поўдзіванах насціл з сена і саломы і часова, да набыцця марской травы, ужываць драўляную стружку.

---

## Цэны на гародніну і грыбны салат

### ПАСТАНОВА

### Збытавога Канвенцыйнага Бюро Наркамунутгандля БССР

**№ 1**

7/II—36 г. г. Менск

1. У змену пастановы Канвенцбюро № 367 ад 28|X—35 г., устанавіць наступныя рознічныя продажныя цэны на:

Бручку . . 20 к. кгр., замест раней устаноўленых 15 к.
Буракі . . 20 к. " " " " 15 к.
Маркоўку 30 " " " " 20 к.

2. Устанавіць рознічную продажную цану на грыбны салат у размеры 2 руб. за кгр.

Нам. Старшыні Збытавога Канвенцбюро НКУГ БССР
**І. Вэрба**

# СПРОС И ПРЕДЛОЖЕНИЕ ТОВАРОВ

## Бюро спроса и предложения товаров при Наркомвнуторге БССР

Минск, Советская ул., Дом Правительства левое крыло, 4-й этаж, комн. 415, тел. 22-540. Адрес для телеграмм—МИНСК, БЕЛТОВАРБЮРО, тек. сч. в Белорусской Конторе Госбанка № 160/10076.

# ПРЕДЛОЖЕНИЕ ТОВАРОВ

### Пищевкусовая группа:

Мед искусственный паточный 1-го сорта, сахар. 50%, плотн. по Боме 30°—50 тонн—2150 р. тонна, фр-скл. продавца, расч. акцептом, тоже 50 тонн, сахар. 40%, плотн. по Боме 35°,—2000 р. тн., фр.-ваг. ст. отправл., расчет акцептом.

Повидло брусничное 1-го сорта, сахар. 55—60%, влажн. 35%—5 тонн—3650 р. тн., фр.-скл. продавца, расч. акцептом.

Варенье брусничное—сахарист. 50—55%—10 тонн—3900 р. тонна, фр.-ст. отправл., акцепт, тоже в стеклянных банках по 1 кгр. 10000 банок—4 р. 35 коп. банка, фр.-ст. отправл., акцепт.

Яблочное варенье (яблоки в сиропе) 200 тонн, по цене 3300 руб. тонна для первого пояса, 3500 р. для 2-го пояса, 3600 р. для 3-го пояса и 3900 р. для 4-го пояса, акцепт.

Соки брусничные 10000 декалитров—25 р. 20 к., клюквенные 10000 декалитров—24 р. 30 к., яблочные 10000 декалитров—18 р. за декалитр.

Капуста квашеная 1-го сорта—40 тонн—215 р. тонна, фр.-склад продавца, акцепт.

### Лесохимическая группа:

Гуталин черн., 100 тыс. банок—2 р. 80 к. десяток, фр.-производство.

Галипот 200 тонн—1005 р. тонна, фр.-вагон ст. отправл., акцепт.

Коломазь галипот 400 тонн—397 р. 70 к. тонна, шохор 300 тонн—178 р. тонна, тронь черная 300 тонн—546 р. тонна, олифа искусствен. 50 тонн—2443 р. тонна, фр.-производство.

Лак асфальтовый 1-го сорта—50 тонн—1150 р. тонна, фр.-производство, акцепт.

Колесная мазь галипотная 500 тонн—433 р. тонна, фр.-вагон, деготь химич. искусств. 300 тонн—500 р. тонна, фр.-вагон.

Декстрин 1-го сорта—16 тонн—1700 р. тонна, тоже 2-го сорта—16 тонн—1500 р. тонна, фр.-вагон ст. отправл., акцепт.

Сургуч в палочках красный, 10 тыс. кгр.—2250 р. тонна, фр.-склад продавца.

Колеса окованные ясеневые, крестьянского типа, под жел. ход без втулок, 50 стан.—118 р. 60 к., фр.-скл. продавца.

Телеги крестьянские, раздвижные, 1000 шт.—235 р. шт., фр.-производство, акцепт.

Обручи ореховые и лозовые, разн. длины, 2 млн. шт., в пачках по 100 шт., по цене 50 р. и 65 р. за тыс. шт., фр.-вагон, акцепт.

Драни штукатурная, 3 млн. шт., в пачках по 100 шт.—16 руб. за тыс. шт., фр.-вагон, акцепт.

Лыко липовое 8 тонн в пачках—1 р. 25 к. кгр.

Решета 300 тыс. шт.—1 р. 75 к. шт., фр.-производство.

Уголь древесный сосновый 500 тонн—220 р. тонна, фр.-вагон, акцепт.

### Тара:

Бочки осиновые из колотой клепки—3000 шт., емкость 175 литр.—23 р. шт., 250 литр.—27 р. 50 к. шт., фр.-склад артели, тоже разм. 81×53 см.—2000 шт.—21 р. 10 к., 92×57 см. 2000 шт.—24 р. 85 к., 71×53 см.,—2000 шт.—19 р. шт., фр.-производство, акцепт, тоже разм. 81×53 см.—500 шт.—22 р. 94 к. шт., 91×54—100 шт.—27 р.

### Промтоварная группа:

Стаканы чайные 15 ваг.—20 коп. шт., фр.-вагон ст. отправлен., акцепт.

Пресса конторские 36000 шт.—80 коп. шт.+33% госб. наценки, американские стр. кубики 2500 компл.—20 руб., полуфуганы школьные, 20 тыс. шт. по 6 р. 90 к., рубанки школьные 20 тыс. шт. по 6 р. 43 к., шерхебели 12 тыс. шт. по 5 р. 71 к., фуганы школьные 1000 шт. по 10 р. 90 к., акцепт.

Топоры плотничные, 15 тыс. шт. по 7 р. 30 к. за шт., фр.-склад производство, акцепт.

Чуни веревочные, 25 тыс. по цене 3 р. 50 к. пара +5% нац., веревка мочальная 5—6 метр. —12 тыс. шт., по цене 69 к.+10% нац., фр.-склад продавца, акцепт.

Рогожки из деревянной стружки, 100 тыс. шт.—1 р. за шт., фр.-склад продавца, акцепт.

Разная гончарная посуда 1-го, 2-го и 3-го сортов, на сумму 25 тыс. руб., цена утвержд. Белстройкерамсоюзом, фр.-производство, акцепт.

# СПРОС ТОВАРОВ:

Яблоки крымские, тюлька маринованная, сельди разные, рыба свежая и мороженная, орехи буковые и фисташки, чернослив сушенный, урюк, сабза, мандарины, сухофрукты, горчица сухая, колбаса и свинокопчености, сода питьевая, мак, сода бельевая, папиросы 2-го и 3-го сортов, лова и лозовые палки, клепка дубовая, мешки, парафин светлый и желтый, бутылки чистые разных размеров, клепка осиновая колотая, краска в пакетах, гуталинные банки, фтористый натрий, деготь березовый, рукавицы утильные, пакля строительная, смольная прядь, ветошь, вата белая.

Выданне Наркамунутгандля БССР—Дом Урада, 4-й паверх, пак. 415, тэл. 22-540.

Адк. рэдактар І. І. Верба. Адк. сакратар рэдакцыі В. Адлерштэйн.

Школа ФЗВ друкарні ім. Сталіна. Зак. 226. Тыраж 750 экз. Галоўлітбел № 3220.